**№ 107 (689)**

Серада, 16 чэрвеня 1999 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.


# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас









Государство против личности

*Игорь КАРНЕЙ*

## Закон силы вместо силы закона



54-летняя Лидия Цингалева в своих бедах обвиняет коммунистическую систему. Ее родители жили впроголодь, но молчали, боясь кары сталинских живодеров. Ее поздняя дочь растет без отца, поскольку последний отцовским обязанностям предпочел партийную карьеру в Москве. Она считает себя жертвой тоталитарного режима, так и не найдя достойного применения своим знаниям. Статус "лишнего человека" приводит Цингалеву сразу к евангелистам, а с активизацией перестроечного процесса — и в "уличную" политику. Под занавес 80-х она становится идеологической *сяброўкай* БНФ. В 1990-м вместе с группой фронтовцев подпадает под уголовную ответственность за участие в антикоммунистическом митинге, завершившемся возложением чучела к памятнику вождя мирового пролетариата. Лишь спустя полтора года дело о "злостном хулиганстве с особой дерзостью" было закрыто вследствие изменения политической ситуации. Реабилитированная антикоммунистка снова возвратилась к нормальной жизни. По крайней мере, так ей казалось. Однако руководство одной из столичных гостиниц, где Цингалева до сего времени работала горничной, посчитало иначе. Через некоторое время Цингалева была уволена. Юристы Белорусской лиги прав человека, куда пострадавшая женщина обратилась за правовой помощью, в итоге обнаружили массу юридических нестыковок, которые не дают основания обвинить Лидию Цингалеву в игнорировании служебных обязанностей. Сама же женщина уверена, что таким образом поплатилась за религиозные взгляды и политические "грехи"; повторно устроиться на работу в предпенсионном возрасте едва ли возможно. Индивидуальный пикет протеста стал гласом вопиющего в правовой пустыне.

Отрешение от трудовой деятельности Цингалева переносит стоически. В большей степени удручает то, что автоматически без средств к существованию осталась ее 16-летняя дочь, вдобавок ко всему страдающая заболеванием щитовидной железы. Однако даже это обстоятельство не стало весомым аргументом в пользу назначения девочке госпособия. Незначительная материальная помощь иногда поступает от старых знакомых и евангельских христиан, с которыми 16-летняя Лиза учится в воскресной школе. Мать тем временем осваивает альтернативные способы заработка: торговлю газетами и сигаретами, "охоту" за пустыми бутылками и даже сидение на паперти. Реакция властных структур, совершенно незаметная во время официальных обращений, в последнем случае — мгновенна. Милицейские патрули в целях "поддержания порядка" неоднократно прикладывали свои дубинки к спинам несанкционированных страждущих на правах "разъяснительной беседы". Сила закона уступает закону силы. Жалобные письма Цингалевой в горисполком если какой-то эффект и возымели, то лишь "обратной тяги". Исполкомовский юрист, устав разбирать груды писем, написанных одной и той же рукой, в конце концов ответил: "...такой вид волеизъявления, как сбор милостыни, не предусмотрен положением о порядке проведения собраний, митингов, уличных шествий и демонстраций...", а посему, Лидия Алексеевна, ищите-ка вы географические широты, где попрошайничество узаконено сердобольной мэрией города N. Только вот при чем здесь собрания и уличные шествия? Тем не менее для себя Лидия Цингалева выводы уже сделала: ловить в этой стране действительно нечего. Прежде всего ее дочери. Оказавшись невольной заложницей ситуации, Лиза лишена возможности брать от жизни даже минимальный набор элементарных радостей. Цингалевы все чаще устремляют взоры на Россию и предполагают интегрироваться туда даже раньше президента Лукашенко. К тому же где-то в Москве живет не такой уж далекий человек — муж и отец. Вдруг вспомнит.

Трудно предположить, чем закончатся хождения белорусских женщин в российскую власть. И лучший ли это вариант вообще — искать спокойствия в России? Остается фактом лишь то, что, основываясь на реальной истории "маленького человека", законное право на политическое, экономическое, социальное убежище Цингалевых подтвердил ряд общественно-политических организаций республики (правозащитный центр "Весна-96", Белорусский Хельсинкский комитет, партия женщин "Надзея" и т.д.). Проблема в другом: еще год-два — и бежать нужно будет всем. Не верится, что баталии разворачиваются на исходе очередного века.

Прэс-канферэнцыя: пра што гаварылася...

## "Мы належым да шэрагу старажытных народаў Еўропы..."

Чытачы звярнулі ўвагу на публікацыю ў шасці нумарах матэрыялаў, падрыхтаваных Нацыянальным грамадскім арганізацыйным камітэтам "Беларусь — 2000 гадоў". У сувязі з гэтым аргкамітэт правёў прэс-канферэнцыю для журналістаў. На сустрэчы былі падсумаваны вынікі абнародавання гэтых важных дакументаў, якія прапанаваны да ўвагі грамадзян Беларусі, дзяржаўных улад і беларусаў замежжа.

Усяго, як вядома, было апублікавана тры дакументы — Зварот да беларускай грамадскасці ў сувязі з 2000-годдзем, які падпісалі прадстаўнікі грамадскіх арганізацый Беларусі, вядучыя грамадскія дзеячы, навукоўцы (усяго больш за 60 чалавек), Слова да беларускага народа "Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржаўнасці" і "Праграма "Беларусь — 2000 гадоў".

Кожны з гэтых дакументаў, як падкрэсліў вядучы прэс-канферэнцыі, старшыня аргкамітэта акадэмік Радзім Гарэцкі, мае сваю асобную мэту і значнасць. Зварот заклікае грамадскасць Беларусі асэнсаваць сябе як самастойную нацыянальную супольнасць на мяжы тысячагоддзя, скарыстаць памятную дату дзеля таго, каб ушанаваць свой гістарычны шлях і вызначыць перспектыву на будучыню.

Слова да беларускага народа "Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржаўнасці" падсумоўвае гістарычныя набыткі беларусаў, фактычна гэта кароткі агляд гісторыі Беларусі ад старажытнасці да сучаснасці. Гэты дакумент складзены на падставе навуковых даследаванняў, ён яскрава паказвае, што беларусы маюць сваю вялікую гісторыю, якой патрэбна ганарыцца. Мы належым да шэрагу старажытных народаў Еўропы. Беларускі народ стварыў сваю адметную культуру і сфармаваў на працягу вякоў сваю ўласную дзяржаўнасць. Дзеля таго каб ушанаваць гістарычны шлях Беларусі, надаць нашай краіне сапраўднае аблічча старажытнай дзяржавы, аргкамітэт прапануе грамадскасці сваю праграму "Беларусь — 2000 гадоў", якая прадугледжвае шэраг розных праектаў па ўсіх накірунках жыцця.

Каардынатар і адказны сакратар аргкамітэта Ганна Сурмач паведаміла журналістам аб тым, як была ўспрынята публікацыя ў беларускім грамадстве. Было мноства тэлефонных званкоў, некаторыя звярталіся асабіста, прыходзілі, цікавіліся, распытвалі. Асабліва шырокі водгук набыла публікацыя ў рэгіёнах Беларусі, дзе гатовы падтрымаць прапановы аргкамітэта і распачаць працу па ўшанаванні гістарычнага мінулага ў сваіх мясцінах. Былі выказаны прапановы размясціць апублікаваную інфармацыю ў сістэме "Інтэрнэт".

У адказ на пытанне аб магчымасцях узаемадзеяння з дзяржаўным камітэтам, створаным да 2000-годдзя, сп. Сурмач патлумачыла наступнае. Нацыянальны камітэт "Беларусь — 2000 гадоў" з'яўляецца грамадскай структурай, якая створана па ініцыятыве і з удзелам грамадскага сектара Беларусі. Гэты камітэт мяркуе скіраваць сваю дзейнасць на тыя справы, якія, як ужо бачна, будуць знаходзіцца па-за ўвагаю дзяржаўнага камітэта. Апошні больш арыентуецца на тое, каб адсвяткаваць 2000-годдзе хрысціянства ўвогуле і падрыхтавацца да ўрачыстай сустрэчы новага тысячагоддзя. Грамадскі камітэт ставіць сваёй асноўнай мэтай прывязку гэтай памятнай даты да гісторыі нашага народа — падсумаваць гістарычны шлях беларускай нацыі ад пачатку хрысціянскай эры. Гэта асабліва важна таму, што менавіта за гэтыя два тысячагоддзі сфармавалася беларуская нацыя і стварылася беларуская дзяржава. Гэта асноўныя дасягненні беларусаў за пройдзены двухтысячагадовы шлях. Такім чынам, ушанаванне знамянальнай даты грамадскім камітэтам увязваецца найперш з гісторыяй Беларусі.

Сустаршыня аргкамітэта Алесь Петрашкевіч сканцэнтраваў увагу прысутных на тым, што аргкамітэт распрацаваў апублікаваныя дакументы дзеля таго, найперш, каб спрыяць абуджэнню нацыянальнай годнасці беларускай нацыі. Сёння гэта неабходна дзеля захавання нацыі. Праз нашы гістарычныя дасягненні аргкамітэт імкнуўся паказаць, што беларускі народ мае чым ганарыцца і здольны захаваць сябе ў новым тысячагоддзі, ён мае вялікі жыццёвы патэнцыял, і кожны з нас павінен мець адказнасць за далейшы лёс нашай краіны.

Прадстаўнікі аргкамітэта заклікалі грамадскасць Беларусі да актыўнага ўдзелу ў гэтай важнай справе.

**(Ул.кар.)**

Пр. Паўлы, Дзмітрыя, Дзяніса, Іпата, Лук'яна, Паўла, Юльяна.
К. Аліны, Юстыны.

**165 гадоў** з дня нараджэння А.К.Ельскага (1834—1916), беларускага пісьменніка, гісторыка, этнографа, краязнаўца, публіцыста.

**ЧЭРВЕНЬ**
**16**
**'99 СЕРАДА**

Усход 4.37
Захад 21.44
Даўж. дня 17.07

Маладзік 13 чэрвеня
Захад 0.25
Усход 8.55

## Дырэктар дэпартамента Сусветнага банка па Украіне і Беларусі прадставіць беларускаму кіраўніцтву новага пастаяннага прадстаўніка банка ў Рэспубліцы Беларусь

Вечарам 17 чэрвеня ў Мінск прыбудзе місія Сусветнага банка (СБ) на чале з дырэктарам дэпартамента Сусветнага банка па Украіне і Беларусі Полам Сігельбаўмам. Як паведамілі БелаПАН у Беларускім прадстаўніцтве СБ, 18 чэрвеня П.Сігельбаўм сустрэнецца з кіраўнікамі Адміністрацыі прэзідэнта, урада і Нацыянальнага банка рэспублікі, а таксама прадставіць беларускаму кіраўніцтву новага пастаяннага прадстаўніка Сусветнага банка ў Беларусі Сяргея Куліка.

Трэба адзначыць, што з верасня 1998 года ў Беларусі не было пастаяннага прадстаўніка СБ; згодна з рашэннем кіраўніцтва Сусветнага банка, С.Кулік павінен прыступіць да сваіх абавязкаў 21 чэрвеня.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## У Гомельскай вобласці ўсё часцей фіксуюцца выпадкі, калі ўтрыманне стронцыя-90 у прадуктах харчавання перавышае гранічна дапушчальныя нормы

Так, калі ў 1996 годзе ў 38 гаспадарках знойдзена павышанае ўтрыманне стронцыя-90 у збожжы і бульбе, то ў 1998 годзе ў 78 гаспадарках перавышаны нарматыў па збожжы і ў 22 — па бульбе. Гэтыя прадукты было немагчыма выкарыстаць, з-за чаго гаспадаркі панеслі вялікія страты. А ў 53 населеных пунктах Гомельшчыны малако таксама неспрыяльнае па ўтрыманні ў ім гэтага радыенукліда. Праблема паглыбляецца тым, што яшчэ не распрацаваны эфектыўныя захады па абароне ад стронцыя-90 накшталт тых, якімі кантралюецца ўтрыманне ў прадуктах радыецэзія. Гомельскі аблвыканкам заклікаў заняцца вырашэннем гэтай праблемы вучоных Беларускага НДІ радыялогіі.

## Міністр абароны Украіны прапаноўвае Варшаве накіраваць у Косава польска-ўкраінскі батальён

Міністр абароны Украіны Аляксандр Кузьмук звярнуўся да кіраўніцтва Польшчы з прапановай разгледзець пытанне аб накіраванні ў Косава польска-ўкраінскага батальёна. Пра гэта паведаміла агенцтва УНІАН са спасылкай на польскую "Газету выборчу". Адначасова з гэтым газета цытавала ваеннага прадстаўніка Украіны пры НАТО генерала Віталя Куксенку, які паведаміў, што "ўкраінскія падраздзяленні не маюць намеру служыць пад расійскім камандаваннем" у Косава.

Створаны напрыканцы 1998 года польска-ўкраінскі батальён налічвае каля 700 салдат, пароўну ад кожнага боку. У дапаўненне да гэтага падраздзялення Украіна хацела б накіраваць на Балканы яшчэ да 800 ваеннаслужачых. "Газета выборча" паведамляе, што, паводле слоў прэм'ер-міністра Польшчы Ежы Бузека, ініцыятыву міністра абароны Украіны падтрымала камандаванне НАТО. Прапанова Кіева аб накіраванні ў Косава польска-ўкраінскага батальёна будзе разгледжана на пасяджэнні ўрада Польшчы. Ёсць таксама звесткі, што з аналагічнай просьбай да Польшчы звярнуўся ўрад Літвы, прапанаваўшы ўключыць у склад польскага кантынгенту, які рыхтуецца да адпраўкі ў Косава, літоўскі ўзвод у складзе 30 чалавек з брыгады "Жалезны воўк".

**БелаПАН—УНІАН.**



### Надвор'е

16, 17 чэрвеня па краіне захаваецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Толькі па паўднёвым захадзе месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы з навальніцамі. Вецер паўднёва-ўсходні і паўднёвы — 4—9 м/с, пры навальніцах парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра ўначы — +14...+19, удзень — +28...+33.

## Вярхоўны суд адхіліў іск Мінскай гарадской арганізацыі ЛДП аб адмене вынікаў выбараў у сталічны Савет дэпутатаў

14 чэрвеня Вярхоўны суд Беларусі адхіліў іск Мінскай гарадской арганізацыі Ліберальна-дэмакратычнай партыі (ЛДП) аб адмене вынікаў выбараў у сталічны Савет дэпутатаў.

Як ужо паведамляў БелаПАН, у сваім іску прадстаўнікі ЛДП абвінавачваюць Мінскую гарадскую тэрытарыяльную выбарчую камісію ў "фальсіфікацыі, падлогу і грубых парушэннях" выбарчага заканадаўства. Так, арганізатары выбараў абвінавачваюцца ў перашкодзе правядзенню перадвыбарчай агітацыі кандыдатамі ад ЛДП і незаконным зняцці часткі кандыдатаў, вылучаных партыяй, з выбарчага марафону.

Апрача таго, на думку Мінскага гарадскога камітэта ЛДП, мноства парушэнняў выбарчага заканадаўства былі дапушчаны непасрэдна ў працэсе галасавання. Найбольш тыповае з іх — галасаванне за іншых членаў сям'і.

Як паведаміў БелаПАН старшыня Мінскай гарадской арганізацыі ЛДП Уладзімір Карунас, Вярхоўны суд палічыў, што дадзенае пытанне знаходзіцца па-за яго кампетэнцыяй і, спаслаўшыся на артыкул 57 Закона аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў (устанаўленне вынікаў выбараў па выбарчай акрузе), параіў ліберал-дэмакратам звярнуцца ў Цэнтральную камісію па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў. Аднак, паводле слоў У.Карунаса, ЛДП лічыць вінаватай у парушэнні выбарчага заканадаўства не толькі Мінскую гарадскую тэрытарыяльную выбарчую камісію, але і Цэнтрвыбаркам. Такім чынам, адзначыў ён, атрымліваецца, што саму Цэнтральную камісію да адказнасці прыцягнуць нельга. Лідэр ЛДП Сяргей Гайдукевіч заявіў БелаПАН: сённяшняе рашэнне Вярхоўнага суда з'яўляецца яскравым сведчаннем таго, што ў Беларусі "адсутнічае выбарчая сістэма".

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН.**

## Гомельскі прыватны натарыус Л.Васільева мае намер звярнуцца ў міжнародныя інстанцыі ў пошуках абароны ад матэрыяльных дамаганняў беларускай дзяржавы

Адна з самых аўтарытэтных гомельскіх прыватных натарыусаў Людміла Васільева мае намер звярнуцца за дапамогай у міжнародныя інстанцыі, паколькі лічыць, што ўсе спосабы знайсці ў Беларусі справядлівасць ёю вычарпаны.

Людміла Васільева, як і ўсе беларускія прыватныя натарыусы, пасля выхаду ў свет 3 траўня 1997 года Дэкрэта прэзідэнта "Аб некаторых захадах па ўдасканальванні адвакацкай і натарыяльнай дзейнасці" падверглася фінансавым дамаганням з боку дзяржавы. Названы Дэкрэт і адпаведны Указ прэзідэнта не толькі прынцыпова змянілі падаткаабкладанне прыватных натарыусаў, але і прадугледзелі спагнанне з іх так званай безгрунтоўна набытай дзяржпошліны, пачынаючы з 1994 года, калі інстытут прыватнага натарыяту ў парадку эксперыменту быў уведзены ў рэспубліцы з санкцыі ўрада.

Фінансавыя прэтэнзіі асабіста да Л.Васільевай у чэрвені 1998 года былі вызначаны ў памеры 1 млрд. 115 млн. рублёў. У снежні 1998 года яна прайграла справу ў судах першай і касацыйнай інстанцый, а Вярхоўны суд, разгледзеўшы нядаўна яе скаргу, вынес пастанову аб змяненні сумы, якая падлягае спагнанню з Л.Васільевай. Згодна з рашэннем суда, гомельскаму натарыусу быццам забыліся праіндэксаваць прад'яўленую ёй суму, і на самой справе яна "вінавата" дзяржаве 4 млрд. 117 млн. рублёў. Акрамя таго, Міністэрства юстыцыі Беларусі на працягу двух месяцаў не прымала канкрэтнага рашэння аб працягу Л.Васільевай ліцэнзіі на права займацца прыватнай натарыяльнай дзейнасцю. З гэтай нагоды натарыус была вымушана падаць іск у суд аб прымусе міністэрства да працягу ліцэнзіі, але суд Маскоўскага раёна адмовіў ёй у прыняцці іска, а 3 чэрвеня міністр юстыцыі Генадзь Варанцоў падпісаў загад, якім дазволіў працягнуць Л.Васільевай з 1 чэрвеня тэрмін дзеяння ліцэнзіі на 6 месяцаў, тады як законам прадугледжаны адзіны перыяд дзеяння ліцэнзіі — 5 гадоў.

У інтэрв'ю БелаПАН Л.Васільева заявіла, што яна наўрад ці скарыстае гэтую ліцэнзію. Натарыус лічыць, што не парушыла ніводнага дакумента, які рэгламентаваў дзейнасць у рэспубліцы прыватнага натарыяту, а таму, калі некаму і трэба несці адказнасць за што-небудзь, дык тым дзяржаўным ведамствам, якія распрацавалі нарматыўную і падатковую базу для "прыватнікаў". Адзінай магчымасцю абараніць сябе Л.Васільева бачыць толькі зварот за падтрымкай у міжнародныя інстанцыі.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

Стоп-кадр



У дзіцячым аздараўленчым цэнтры "Магістраль" праводзяць канікулы дзеці чыгуначнікаў Віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі. За адну змену тут адпачывае 400 дзяцей.

Усе спальныя карпусы размясціліся ў сасновым бары каля станцыі "Лётцы", што ў 20 кіламетрах ад Віцебска. Да паслугі дзяцей — спартыўныя пляцоўкі, лодачная станцыя, купальня, пакоі для гульняў, атракцыёны.

**На здымку:** *купанне і адпачынак на возеры.*

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

## Прадстаўнікі віцебскай арганізацыі АГП правялі 11-гадзінную агітацыйную акцыю — Дзень грамадзяніна

Незвычайную агітацыйную акцыю правялі ў Віцебску мясцовыя прадстаўнікі Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) — на працягу 11 гадзін яны ў форме народнага гуляння праводзілі Дзень грамадзяніна. Паводле слоў намесніка старшыні АГП Аляксандра Дабравольскага, які прысутнічаў на свяце, такая форма палітычнай агітацыі ў практыцы партыі прымяняецца ўпершыню. Мастацкую частку Дня грамадзяніна падтрымаў беларускі фальк-рок-гурт "NEW-COSMOPOLIS". У праграме імправізаванага канцэрта выступіў і сам А.Дабравольскі: акампануючы сабе на гітары, ён праспяваў дзве песні на вершы Уладзіміра Караткевіча.

Спецыяльна да свята лідэр віцебскага аддзялення АГП Генадзь Муратаў ажыццявіў выпуск газеты "Грамадзянін". Жадаючым раздаваліся і іншыя агітацыйныя матэрыялы і сувеніры з сімволікай АГП. Кіраўніцтва партыі мае намер выкарыстаць віцебскі вопыт пры падрыхтоўцы падобных форм палітычнай агітацыі ў іншых рэгіёнах Беларусі.

**Леанід СІМАНАЎ.**

## Магілёўскі мясакамбінат спынены на два тыдні

Афіцыйная прычына — неабходнасць правядзення планавага рамонту. Паводле некаторых іншых звестак, звязана гэта з дэфіцытам сыравіны, які сёлета адчуваюць усе тры мясаперапрацоўчыя прадпрыемствы Магілёўшчыны. Паводле слоў дырэктара Магілёўскага мясакамбіната Міхаіла Хортава, на час спынення вытворчасці ўсім працаўнікам прадпрыемства будзе прадастаўлены чарговы адпачынак. Тыя ж, хто па тых альбо іншых прычынах не мае на яго права, будуць адпачываць за свой кошт.

Запасаў гатовай прадукцыі на камбінаце хопіць яшчэ на чатыры дні гандлю. Плануецца, што на працягу бліжэйшых двух тыдняў мясныя вырабы ў Магілёў будуць пастаўляцца з Крычава і Бабруйска пры ўмове, калі згаданыя камбінаты атрымаюць дадатковыя аб'ёмы сыравіны. За пяць месяцаў 1999 года ўсе тры мясакамбінаты працавалі крыху больш, чым на пятую частку сваіх магчымасцяў. Сёння забойны цэх Бабруйскага мясакамбіната працуе толькі тры дні на тыдзень, Крычаўскага — 1—2 дні. Намеснік генеральнага дырэктара абласнога ДВА "Мясамалпрам" Уладзімір Рамашкевіч асноўнай прычынай гэтага назваў складанасці з пастаўкай мяса для перапрацоўкі.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

